РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ-ВІЛЬНЯ-БЕЛАСТОК ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 24 (79) 22 – 28 ліпеня 1994 г. Кошт 300 рублёў

*Многія з бліжэйшых падначальных і сяброў Вячаслава Кебіча тайна працавалі супраць яго - ст.2.*

*Раптам ён выхапіў грошы й пабег... Сума складала каля 600000 расейскіх рублёў - ст.3.*

*Народны Рух Украіны патрабуе ўзьвядзеньня ў горадзе Львове помніка Сьцяпану Бандэры - ст.4.*

**ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ:** *Менск – Варшава – Масква – Санкт-Пецярбург.*

## ЛУКАШЭНКА ЗАЧАПІЎСЯ ЗА ЦЬВІКІ

Пасьля таго, як Лукашэнка стаў Прэзідэнтам Беларусі, крымінальная справа, узбуджаная пасьля вядомага інцыдэнта ў Доме ўраду, хутчэй за ўсё ў бліжэйшы час будзе спынена.

Як паведаміў адзін з супрацоўнікаў Пракуратуры рэспублікі, які пажадаў застацца невядомым, Лукашэнка наўрад ці зараз зацікаўлены ў працягваньні сьледства па гэтай справе, бо экспэртыза высьветліла, што славуты белы касьцюм першага Прэзідэнта сапсавалі не супрацоўнікі міліцыі, як заявіў раней сам пацярпелы. На самой справе Аляксандр Рыгоравіч у сумятне проста зачапіўся за цьвікі, якімі калісьці была прымацавана на дзьвярах яго габінэта шыльдачка, і парваў свой строй.

Зараз злашчасныя цьвікі з валокнамі прэзідэнцкага строю знаходзяцца ў лябараторыі крымінальнай экспэртызы. Акрамя таго, па зьвестках крыніцы, экспэрты лічаць, што плямы, якія засталіся на некаторых пікантных месцах строя Лукашэнкі пасьля паядынку з міліцыянтамі, гэта ўсяго толькі плястылін, якім былі апячатаны дзьверы габінэта, а не сьляды ўдараў міліцыянцкіх ботаў.

## КДБ ПРАПРАЦОЎВАЎ ВАРЫЯНТ УВЯДЗЕНЬНЯ НАДЗВЫЧАЙНАГА СТАНОВІШЧА

Паміж першым і другім турам прэзідэнцкіх выбараў аналітыкі падраздзяленьня Камітэту дзяржаўнай бясьпекі Беларусі падрыхтавалі дакладную запіску, у якой разглядаліся вынікі найбольш верагодных варыянтаў разьвіцьця падзей.

Асаблівы інтарэс уяўляў прагноз, які датычыцца магчымасьці ўвядзеньня надзвычайнага становішча. Падставай дзеля гэтага павінна была стаць сэрыя тэрактаў (адзін з іх быў зьдзейсьнены: выбух гранаты ў пад'ездзе дома, дзе жыве былы ўрадавы сакратар Г.Данілаў. Плянавалася таксама інсцэніраваць замах на начальніка аднаго з упраўленьняў Саўміна). На думку аналітыкаў КДБ, славыя структуры (у прыватнасьці, войска), у якіх пераважаюць прыхільнікі Лукашэнкі, не падтрымалі б такую меру.

## ПРАЗ ДВА-ТРЫ ГАДЫ БЕЛАРУСЬ МОЖА ВЫЙСЬЦІ З КРЫЗІСУ

Як адзначыў у інтэрв'ю карэспандэнту СІМ кіраўнік адной з фінансавых кампаній Беларусі, пры разумнай эканамічнай палітыцы Прэзідэнта рэспубліка на працягу 2-3 гадоў можа выйсьці з крызіснага становішча. Аднак гэта залежыць ад той каманды, з якой зьбірецца працаваць А.Лукашэнка. Прэзідэнту нельга працаваць са старой камандай, інакш праз тыя ж 2-3 гады яму давядзецца пайсьці, пакінуўшы рэспубліку ў яшчэ больш цяжкім эканамічным становішчы. А на сёньняшні дзень, на пачатку прэзідэнцкага праўленьня прагнозы эканамістаў не вельмі суцяшальныя: курс "зайчыка" ў адносінах да даляра на працягу бліжэйшага года будзе расьці, і тэмпы інфляцыі будуць значна вышэйшыя, чым у Расеі, дзе ўжо заўважаецца поўная стабільнасьць.

**СІМ**

## 27 ЛІПЕНЯ – ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

*Працавалі мы на ўсе імпэрыі,*
*Папрацуем на сябе, браты!*

**Рыгор Барадулін**

### Грамадзяне незалежнай Беларусі!

Галоўны набытак народу - гэта незалежная дзяржава. Чужыя гаспадары, валадары суседніх сталіцаў не будуць дбаць пра дабро беларускага народа. Толькі мы самі можам і павінны навесьці парадак у сваім беларускім доме.

Сілы, варожыя Беларусі й паслухмяныя сваім маскоўскім гаспадарам, хочуць падманам зацягнуць беларускі народ назад у Расейскую імпэрыю. Але Радзіма не прадаецца. Не прадаецца наша памяць, наша мова, нашы нацыянальныя сьвятыні. Беларусь - не задворкі Расеі, а эўрапэйская краіна з таленавітым і працавітым народам ды з вялікаю будучыняй.

27 ліпеня 1990 года Беларусь аднавіла незалежнасьць. На жаль, ля ўлады засталіся тыя самыя праімпэрскія сілы. Таму велізарныя магчымасьці народнага адраджэньня, якія дае незалежнасьць, дагэтуль належна не выкарыстаныя. Але настане дзень, калі беларусы зноў зоймуць пачэснае й роўнае месца сярод іншых народаў нашай старой добрай Эўропы.

Запрашаем вас, дарагія суайчыньнікі, разам адзначыць Дзень адроджанай Незалежнасьці нашай краіны.

**СА СЬВЯТАМ! ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!**

**Управа Беларускага Народнага Фронту.**

## Гарадзенская Вабласная Рада БНФ заклікае

У гэты складаны й цяжкі для нашай Бацькаўшчыны час, калі ўладныя намэнклятурныя структуры раскрадаюць і распрадаюць здабытак нашага народу, выступаюць супраць беларускай незалежнасьці, мовы й культуры, усім, каму не абыякавы лёс нашай дзяржавы, трэба аб'яднацца пад штандарам Беларускага Народнага Фронта "Адраджэньне". Уступайце ў БНФ!

Пішыце на адрас: 230025, г.Горадня, а/с 139. Тэлефануйце штодзень з 9.00 да 17.00 па тэлефоне 45-41-83.

23 ліпеня ў Менску адбудзецца ПАШЫРАНЫ СОЙМ БНФ "АДРАДЖЭНЬНЕ", на якім будзе разгледжана палітычнае і эканамічнае становішча Беларусі. Пачатак працы ў 11.00 (вул. Варвашэні, 8).

30 ліпеня ў Горадні адбудзецца ГАРАДЗКІ СХОД БНФ "АДРАДЖЭНЬНЕ". Пачатак працы ў 11.00 (штаб-кватэра БНФ, вул. Савецкая, 10).

31 ліпеня ў г.Лідзе пройдзе ВАБЛАСНАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ БНФ "АДРАЖЭНЬНЕ". Пачатак працы ў 12.00 у памяшканьні Таварыства беларускай мовы (вул.Кірава, 27).

ЗАПРАШАЕМ СЯБРОЎ І ПРЫХІЛЬНІКАЎ БНФ ПРЫНЯЦЬ УДЗЕЛ У ПРАЦЫ.

# ПАКУТНІК ЗЯМЛІ ГАРАДЗЕНСКАЙ

*"...Паміж людзьмі існуе суровы й няўмольны закон: жывыя, як бы яны не кляліся помніць, рана ці позна ўсё ж такі забываюць мёртвых..."*

**Аляксей КАРПЮК**
**(аповесьць "Рэквіем").**



Як у ваду глядзеў Аляксей Нічыпаравіч. Нібыта сябе меў на ўвазе. Яго пахавалі на гарадзенскіх могілках роўна два гады таму - у ліпені 1992 года. Тады многа гаварылі над труной нябожчыка, адзначалі заслугі памерлага, заклікалі шанаваць і кляліся помніць. Даніна павагі была аддадзена.

Жыцьцё працягвалася.

Без Карпюка.

Па-рознаму ставіліся да яго. Але не было абыякавых. Найбольш не ўспрымалі аднагодкі - ветэраны вайны. Памятаю, падчас выбараў мяне, кандыдата ў дэпутаты вабласнога Савета, запрасілі на свой сход камуністы партарганізацыі пры ЖЭСе. Сярод пытаньняў было й такое:

"Скажыце, а як вы адносіцеся да Карпюка?"

Адказаў, што вельмі паважліва - і як да пісьменьніка, і як да чалавека.

Па рэакцыі залы зразумеў, што не такіх слоў чакала аўдыторыя. Якраз у друку разгарнулася палеміка паміж Аляксеем Нічыпаравічам, з аднаго боку, і адстаўнікам-палкоўнікам, з другога. Апошняга падтрымлівалі многія, хто застаўся жыць у Горадні пасьля вайны альбо прыехаў сюды пасьля адыходу на пэнсію. Сутнасьць спрэчкі заключалася ў розным разуменьні ролі Савецкай улады ў Заходняй Беларусі. Дарэчы, гэтыя матэр'ялы можна пачытаць, пагартаўшы падшыўкі "Гродзенской праўды", "Советской Белоруссии", былога часопіса "Политический собеседник"...

Тыя ж ветэраны сёньня маршыруюць пад чырвонымі сьцягамі, выкарыстоўваючы 50-годдзе вызваленьня Беларусі, Горадні, іншых гарадоў краіны не як ушанаваньне палеглых за свабоду й незалежнасьць, а найперш як палітычную акцыю. У друку было паведамленьне, што ў адным з вабласных цэнтраў "ціхія пэнсіянеры" накінуліся на калёну пад бел-чырвона-белым сьцягам, зламалі трымач, абрынулі дзяржаўны сымбаль пад ногі.

Пракуратура прамаўчала. Улады зрабілі выгляд, што нічога не адбылося. Хаця зьняслаўленьне сьцяга й гэрба цягне за сабой крымінальную адказнасьць. Па Канстытуцыі. Непакаранасьць вядзе да новых злачынстваў. У наступны раз ветэраны-чырвонасьцягаўцы пераступілі дарогу калёне БНФ у Менску, зрывалі з людзей сталага веку ўзнагароды, зьневажалі гонар і годнасьць. Бо апошнія, бачыце, "посмели" стаць не ў тыя шэрагі.

У Горадні да канфрантацыі не дайшло.

...Другі выпадак. Мяне запрасіў да сябе адзін з намэнклятурных работнікаў былога абкама Кампартыі Беларусі. Была вясна 1991 года. Ён тонка павёў гаворку пра Карпюка. Маўляў, няма дыму без агню. Нешта такое было ў біяграфіі пісьменьніка, што дае права яго апанэнтам спасылацца на дакумэнты, сьведчаньні. Ды ці мог ён так проста ўцячы з фашыстоўскага лягеру сьмерці? Падазрона лёгка атрымалася.

І як аргумэнтацыя - з сэйфа на стол лягла асабістая справа А.Н.Карпюка. Запіскі парткамісіі, апытаньні сьведкаў, усялякія выпіскі, копіі - чаго тут толькі не было, каб дыскрэдытаваць, абліць брудам, паказаць простаму савецкаму чалавеку "истинное обличие" змагара за праўду. Трэба ж было неяк адказваць за выкрывальніцкія артыкулы Аляксея Карпюка ў "Гродзенскай праўдзе" - "Печальные были", "Ворошиловские стрелки" і інш.

Ён быў чалавекам з характарам і глыбокім пачуцьцём уласнай годнасьці. Не падладжваўся пад думку іншых, а меў свой погляд, як і Васіль Быкаў - блізкі сябра Аляксея Нічыпаравіча. Адсюль пабітыя вокны ў кватэры Васіля Быкава, калі ён жыў у Горадні.

Адсюль стварэньне неймаверных умоў жыцьця Аляксею Карпюку.

Але карпюкоўская праўда перамагла. Ён ня толькі выйграў суды, абараніўчы свой гонар і годнасьць ад наскокаў адстаўных прыблуд-палкоўнікаў. Аляксей Нічыпаравіч быў сярод тых нямногіх, хто руплiва даводзіў, што вайна была іншай, чым у падручніках па гісторыі, а партызанцкі рух на Гарадзеншчыне дагэтуль пакзваецца аднабакова і неаб'ектыўна.

Сам тутэйшы, пісьменьнік зьвязаў лёс з Горадняй і нашым краем. Шырока адлюстроўваў падзеі, якія разгортваліся тут у розныя гістарычныя часіны, у нарысах, апавяданьнях, аповесьцях. Ён быў вядомай асобай. Дастаткова ўзгадаць апытаньне, праведзенае незадоўга да сьмерці Аляксея Нічыпаравіча. Трэці радок пасьля намэнклятурных кіраўнікоў вобласьці сьведчыць аб прыняцьці людзьмі пазыцыі ветэрана, ягонага пункту гледжаньня на праблемы, акаляючыя нас.

Пасьля сьмерці Аляксея Карпюка шмат хто ўпотай пляскаў у далоні - дачакаліся! І няўцям зласьліўцам, што пісьменьнік застаецца жыць заўсёды ў сваіх творах, у сэрцах прыхільнікаў і аднадумцаў. У назве вуліцы, у шыльдзе, прымацаванай да сьцяны дома. Праўда, сёньня няма вуліцы А.Карпюка, як няма й шыльды. Але, веру, будзе. Гэта справа часу й справа гонару дэпутатаў гарадзкога Савета.

Аляксей Нічыпаравіч заслужыў такога ўшанаваньня й як ветэран вайны, і як асоба высокай чалавечай годнасьці.

**В.ЗАДАЛЯ**

**Фатаграфаваў А.УЛАДАСЕВІЧ.**

# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## ПНЗ НА РАЗДАРОЖЖЫ: З ПАЗЬНЯКОМ ЦІ НЕ?

У сродках масавай інфармацыі прайшло паведамленьне аб разнагалосьсях у Партыі народнай згоды. Нашаму карэспандэнту ўдалося больш падрабязна даведацца аб іх.

Так, на партыйнай канфэрэнцыі, якая адбылася ў пачатку ліпеня, і на пасядэжаньні выканкама ўзьніклі спрэчкі, у ходзе якіх выказваліся часам супярэчлівыя прапановы. Галоўным пытаньнем спрэчак стала вызначэньне месца ПНЗ у палітычным жыцьці краіны. Некаторыя дэлегаты канфэрэнцыі крытыкавалі свайго старшыню Генадзя Карпенку за тое, што ён у час выбараў прэзідэнта падтрымаў старшыню Сойму БНФ Зянона Пазьняка. А сама партыя не падтрымала нікога, выступіўшы толькі супраць Вячаслава Кебіча. Генадзь Дзьмітрыевіч растлумачыў, што гэта была яго асабістая пазыцыя, і ён ня мог не падтрымаць Зянона Станіслававіча, бо ў час вылучэньня Карпенкі кандыдатам у прэзідэнты БНФ выканаў усе дамоўленасьці. Да таго ж, праграма Пазьняка ўтрымлівала шмат агульнага з яго праграмай і з праграмнымі дакумэнтамі самой ПНЗ. Як памятаеце, на апошняе выступленьне Пазьняка па тэлебачаньню перад першым турам выбараў Карпенка даслаў тэлеграму са словамі падтрымкі. Але меркавалася, што ён сам прыйдзе ў студыю й правядзе там размову з Зянонам Станіслававічам. Паплечнікі Генадзя Дзьмітрыевіча ўгаварылі яго не рабіць гэтага.

Сёньня Партыя народнай згоды не жадае мець асабліва цесных кантактаў з БНФ. Тут ёсьць дзьве прычыны. Па-першае, "згодаўцы" ня хочуць, каб іх атаясамлялі з фронтаўцамі, якіх многія ў нашым грамадзтве лічаць нацыяналістамі. ПНЗ жадае быць самастойнай, прытрымліваецца цэнтрысцкай пазыцыі й не далучацца ні да якіх палітычных сілаў. А па-другое, сярод "згодаўцаў" ёсьць нямала людзей, якія лічаць, што іх партыя стваралася як лева-цэнтрысцкая, і ня трэба каціцца ўправа. На што правая рука Карпенкі ў Маладэчна, кіраўнік спраў мясцовага гарвыканкама Валеры Кастко зазначыў, што для ажыцьцяўленьня праграмных задач партыі прыйдзецца ісьці на збліжэньне з тымі палітычнымі сіламі, у якіх прыблізна такія задачы: умацаваньне дзяржаўнасьці Беларусі, рынкавыя рэформы, сацыяльная абарона насельніцтва, беларусізацыя...

Размова працягнецца на зьезьдзе Партыі народнай згоды, які плянуецца правесьці восеньню. Але наўрад ці справа дойдзе да нейкага расколу, хоць спрэчкі непазьбежныя. Так, партыя стваралася як лева-цэнтрысцкая, і сярод яе стваральнікаў нямала тых, хто раней працаваў у камуністычных структурах. На першым этапе стварэньня плёнка дзейнічаў і цяперашні прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, які потым чамусьці вельмі пакрыўдзіўся на партыю. Але пазыцыя лідара партыі Генадзя Карпенкі за апошні час істотна "паправела". І з гэтым прыйдзецца лічыцца, бо без Карпенкі ПНЗ ня будзе ўяўляць сабой моцную арганізацыю.

Да таго ж, у рады партыі прыйшло нямала новых членаў, менавіта раўняючыся на Карпенку.

Думаецца, што ў бліжэйшы час ПНЗ будзе захоўваць цэнтрысцкую пазыцыю, але ў важных пытаньнях яна падтрымае правыя сілы.

**Уладзімір СЕМЯНЦОЎ.**

## «НА ЗОЛОТОМ КРЫЛЬЦЕ СИДЕЛИ...»

На першай прэс-канфэрэнцыі пасьля выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь побач з А.Р.Лукашэнкам сядзелі Валеры Калесьнікаў, Уладзімір Ядранцоў, Аляксандр Фядута.

На такое атачэньне зьвярнулі ўвагу многія журналісты й выказалі меркаваньне, што кожны з трох па волі Прэзідэнта можа апынуцца на высокіх пасадах у дзяржструктурах.

А.Фядута - былы кіраўнік Саюза моладзі Беларусі, былы карэспандэнт гарадзенскай газэты камуністых "24 часа".

У.Ядранцоў - адзін з тых журналістаў, што зрабілі ў сродках масавай інфармацыі Аляксандру Рыгоравічу імідж змагара з карупцыяй.

Таксама ўпершыню зьявіўся на людзях і В.Калесьнікаў - карэспандэнт газэты "Мінскі мерыдыян", заснавальнікам якой зьяўляецца Кастрычніцкі райвыканкам сталіцы. Спадар Калесьнікаў гісторык па адукацыі. Падчас вучобы славіўся на факультэце завадатарам амурных спраў.

На думку прысутных, хтосьці з вышэйзгаданай тройкі будзе прызначаны начальнікам аддзелу па друку ў каманьдзе Прэзідэнта.

**У.СЕМЯНЦОЎ.**

## І ГЭТА ТОЛЬКІ ПАЧАТАК

На працягу некалькіх тыдняў перад 16 ліпеня ў Горадні немагчыма было купіць па карткам гарэлку. 14-га й 15-га ў шэрагу крамаў зьявіліся настойкі, за якімі выстройваліся даўжэзныя чэргі. Народ даўно зразумеў: калі ў продажы няма якогасьці тавару, чакай хуткага яго падаражэньня. Так яно й адбылося: з 16 ліпеня цэны на гарэлку павялічыліся ў тры разы.

З нядаўняга часу за кошт гарэлкі пакрываліся выдаткі на дацыраваньне прадуктаў харчаваньня. Але ж цяпер ні "белая", ні "каляровая" ня кожнаму па кішэні. Выдаткі ж сельскай гаспадаркі павялічваюцца. У бюджэце грошай на іх пакрыцьцё няма. Урад, каб забясьпечыць цяпер ужо экспрэм'еру найбольшую падтрымку выбаршчыкаў на прэзідэнцкіх выбарах, грошай не шкадаваў, нарабіўшы ільготаў адным, павысіўшы аклады другім. Між тым, шэраг прадпрыемстваў спыніўся ці працуе, але не на поўную магутнасьць, у выніку, паступленьні ў бюджэт увесь час зьмяншаюцца. Нацбанк крэдытаў не дае. Ды й дэфіцыт бюджэту складае 100 працэнтаў. І хаця было сказана, што пасьля павышэньня з 16 ліпеня закупачных цэнаў на буйную рагатую жывёлу й сьвініну ў 1,5 і 1,8 раза адпаведна, розьнічныя цэны не павялічацца, а Лукашэнка запэўніў, што "ні на ёту, ні на адзін крок" не адступіць ад сваіх перадвыбарчых абяцаньняў, у гэта паверыць цяжка. Выдаткі трэба ж яксьці пакрываць, толькі за кошт гарэлкі гэта ня зробіш.

Калі дагэтуль можна было прыйсьці ў любую з харчовых крамаў Горадні й з ранку набыць малако, завезенае напярэдадні, то зараз яго цяжка знайсьці ўжо й пасьля абеду. Высновa простая: падаражэе. На такую думку наводзіць таксама той факт, што з 1 ліпеня да 100 тысяч узьняўся памер мінімальнай заработнай платы. Звычайна пасьля гэтага ўзьнімаліся цэны на прадукты харчаваньня. Няўжо зараз адбудзецца штосьці іншае?

Ёсьць зьвесткі, што ўжо ў жніўні ў 2,5 раза падаражэюць малочныя вырабы, у 1,5 - мяса. Аналягічнае адбудзецца з хлебам. Хаця Лукашэнка й абяцаў гэтага не рабіць, хутчэй за ўсё, самае непраемнае здарыцца.

**Д.АЛЕГАЎ.**

## ХТО ЗДРАДЗІЎ КЕБІЧУ?

За паўтара тыдня да паўторнага галасаваньня ў час прэзідэнцкіх выбараў на дапамогу Вячаславу Кебічу прыляцела група вучоных з Масквы. У яе склад уваходзілі акадэмік, псыхолаг, экстрасэнс, прадказальнік, палітолаг ды іншыя высокакваліфікаваныя спэцыялісты. Узначальваў яе вядомы ў Расеі прадказальнік, аўтар тэорый гуманітарнага грамадзтва ды беззападатковай дзяржавы Сяргей ДАВІТАЯ.

У час гутаркі з журналістам масквічы вельмі зьдзіўляліся, чаму Вячаслаў Кебіч набраў так мала галасоў і чаму так высока ўзьляцеў Аляксандр Лукашэнка? Сяргей Давітая заўважыў, што ён нічога добрага ад гэтых выбараў не чакае, і падкрэсьліў, што ў Беларусі магчыма ў будучым грамадзянская вайна. Дагэтуль беларускі народ мужна перaадольваў усе нягоды, ён не дапусьціў звышвысокага спаду вытворчасьці, не распрадаў багацьце рэспублікі замежным ды сваім камэрсантам. Ва ўсім гэтым яны бачылі й немалую заслугу Вячаслава Францавіча.

Масквічы не хавалі, што ў Расеі менавіта з ім зьвязваюць будучае Беларусі й на яго рабілі стаўку ўрадавыя колы. Што ж датычыць Аляксандра Лукашэнкі, то яго замежныя ваяжоры ацэньвалі вельмі негатыўна, як чалавека без неабходных для кіраваньня дзяржавай навыкаў, з невысокім інтэлектуальным і адукацыйным узроўнем, прэзідэнта, які можа прывесьці сваю краіну да краю бездані.

Шчыра кажучы, самі навукоўцы мала верылі ў перамогу Кебіча, хоць яны рэальна разьлічвалі на тое, што выбары не адбудуцца альбо ніхто з кандыдатаў не набярэ больш паловы галасоў. Адна група ўзялася за працу. Былі складзены ўлёткі, падрыхтаваныя артыкулы ў газэты, зьнятыя кінафільмы. Але эфэктыўнасьць работы, як бачым, аказалася нулявой. Чаму?

Прычын гэтаму шмат. Далёка ня ўсё з задуманага ўдалося ўвасобіць у жыцьцё. Па-першае, не хапіла часу. Каб яны прыехалі хаця б за тыдзень да першага тура галасаваньня, то змаглі б зьмяніць неяк становішча. Тады Вячаслаў Францавіч меў у сваіх руках усю ўладу. А цяпер... ня ўсе газэты згадзіліся друкаваць артыкулы, проста пабаяліся, што пасьля перамогі Лукашэнкі ім будзе дрэнна. Менскія тэле- й радыёжурналісты, якія былі адпраўленыя ім на дапамогу, проста сачкавалі, бо таксама не хацелі асабліва падтрымліваць Кебіча. А па-другое, немалую віну ў паражэньні прэм'ер-міністра на выбарах трэба ўскласьці на яго самога й на яго акружэньне.

Той жа Сяргей Давітая заўважыў, што па яго разьліках Кебіч мае пэўныя шанцы на перамогу. Але яго паводзіны, а таксама здрада ці непрафэсіяналізм бліжэйшых паплечнікаў усе гэтыя шанцы зьвялі практычна да нуля. Так, сіламі групы былі ўнесены дапаўненьні ў даклад прэм'ер-міністра, які ён меўся чытаць на сьвяткаваньні 50-годдзя вызваленьня Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Прэс-сакратар Кебіча Уладзімір Замяталін згадзіўся з прапановамі. А вось начальнік упраўленьня інфармацыі ўраду Васіль Драгавец заявіў, што нічога ня трэба мяняць. Масквічы былі ўяўна расчараваныя. Сам жа Кебіч не асабліва хацеў слухаць іх і паводзіў сябе ня так, як яму раілі. Менавіта гэтыя спэцыялісты распрацоўвалі паводзіны кіраўніка беларускага ўраду ў час сустрэчы яго з кіраўніком расейскага ўраду Віктарам Чарнамырдзіным. Многія з бліжэйшых падначаленых і сяброў Вячаслава Кебіча, на думку членаў гэтай групы, тайна працавалі супраць яго. У прыватнасьці, называлася прозьвішча першага намесьніка прэм'ера Міхаіла Мясьніковіча.

Так ці інакш, але Кебіч прайграў. І цяпер, па словах маскоўскіх вучоных, няхай беларусы чакаюць горшага. Хоць усё будзе залежыць менавіта ад простага народа, ад яго дзеяньняў.

**Уладзімір ВОЙНА.**

## ПАРЛЯМЭНТАРЫІ МОЛЯЦЦА

Кожную сераду ў 15.00 у Расейскай ДзяржДуме праходзіць малебен. Сьвятар Аляксандр Барысаў, прэзідэнт Біблейскага таварыства, настаяцель храма Казьмы й Даміяна пасьля азнаямленьня з малітвеннымі сходамі ў кангрэсе ЗША прапанаваў пачаць такія ж малітвы ў Дзярждуме, не асабліва разьлічваючы на разуменьне й дапамогу з боку чыноўнікаў апарата Дзярждумы, у асноўнай сваё масе людзей няверуючых.

Малітва ў парлямэнце выглядае прыкладна так: сьвятар асяняе крыжным знаменьнем і блаславяе прысутных. На ўзвышэньні стаіць ікона, гарыць сьвечка, у прававерных у руках Біблія. Сьпявае царкоўны хор. Праваслаўныя асяняюць сябе крыжам, пратэстанты моляцца склаўшы рукі, а няверуючыя проста назіраюць і стараюцца зразумець сутнасьць таго, што адбываецца. Сьвятар чытае тэкст з Бібліі па праваслаўнай сядміцы й тлумачыць значэньне хрысьціянскіх сымболяў у паўсядзённым жыцьці палітыкаў. І зноў агульная малітва, у час якой з вуснаў парлямэнтарыяў можна пачуць словы пакаяньня, пакорлівасьці Ўсявышняму, просьбы аб дабрабыце Расеі.

Зараз ідуць перамовы гаспадарчага ўпраўленьня Дзярждумы з маскоўскай Патрыярхіяй аб перадачы ва ўласнасьць парлямэнта аднаго з храмаў у цэнтры Масквы, у якім парлямэнтарыі маглі б зьдзяйсьняць парлямэнцкія малітвы, адпяваньне, спалуку (прычашчэньне). На думку атэістаў, членаў парлямэнта, гэта зьяўляецца парушэньнем правоў чалавека, бо ў Канстытуцыі замацаваны артыкул, што Расея зьяўляецца савецкай дзяржавай.

Калі здаровы сэнс і ўклад жыцьця перамогуць, то духоўна аднаўленая Дзяржджума пачне сапраўдныя маральныя перaўтварэньні ў грамадзтве, а на малебен пачнуць хадзіць і тыя парлямэнтарыі, хто зараз ня верыць ні ў Бога, ні ў Канстытуцыю, ні ў сваіх выбаршчыкаў.

**І.ПЯТРОЎ,**
**Па матэрыялах Хрысьціянскага тэлевізійнага агенцтва.**

## НАРДЭП - СТАРШЫНЯ КАЛГАСУ - ХАБАРНІК

У вёсцы Гараны Полацкага раёна супрацоўнікамі міліцыі затрыманы дэпутат Віцебскага вабласнога Савета Саднікаў. З слоў міліцыянта, нардэп, які зьяўляецца да таго й старшынёй калгаса-камбіната "Гараны", атрымаў хабар у памеры 700 тысяч рублёў ад загадчыка фермай.

## 50 ТЫСЯЧ «ЗАЙЧЫКАЎ» АД ГАНДЛЯРОЎ

Прыемны прэзент - 50 тысяч "зайчыкаў" - атрымалі ад гарадзенскага гархарчгандлю да 50-годдзя вызваленьня Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў ветэраны й інваліды Вялікай Айчыннай вайны Горадні.

**Г.У.**

# СУМЕЖЖА

## ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

У Белавежы ўжо дзесяты раз запар Беларускае Грамадзка-Культурнае таварыства ладзіла Купальле. Сёньня ў сьвяткаваньні гэтага старажытнага земляробчага сьвята ўзялі ўдзел 22 творчыя калектывы з Беларусі й Беласточчыны. Сярод гасьцей прысутнічалі міністр Культуры й мастацтва Польшчы М.Ягела, міністр Замежных справаў Беларусі П.Краўчанка й надзвычайны паўнамоцны пасол Беларусі ў Польшчы Г.Таразевіч.

* * *

"Палякі, якія знаходзяцца па-за межамі Польшчы, маюць права на вяртаньне на Радзіму. А польскае грамадзтва й дяржаўныя ўлады абавязаны арганізаваць ім вяртаньне",- напісалі ў лісьце маршалку Сэйма Ю.Алекса прадстаўнікі Шчэцінскага Форуму ініцыятыў на карысьць рэпатрыяцыі палякаў у Казахстане. Аўтары ліста сцьвярджаюць, што пасьляваенны закон Аб рэпатрыяцыі ня быў скасаваны й таму патрабуецца, каб на яго аснове аднавілася дзейнасьць дзяржаўнай рэпатрыяцыйнай установы.

* * *

У першым сойміку моладзі Усходняй і Сярэдняй Эўропы, які праходзіў у Кракаве, прысутнічала каля 160 маладых людзей з Летувы, Беларусі, Украіны, Расеі, Вугоршчыны, Польшчы, Славеніі, Чэхіі. У Ягелёнскім унівэрсітэце адбыўся сымпозіум, прысьвечаны культурным, гістарычным і гаспадарчым тэмам, характэрным гэтай частцы кантынэнта ў ходзе інтэграцыі Эўропы. Мэта сымпозіума - інтэграцыя моладзі ў духу талерантнасьці й дружбы.

* * *

На другой сэсіі гарадзкой рады ў Беластоку прэзідэнтам горада быў абраны Анджэй Люсса, рэкамэндаваны правым выбарчым камітэтам "Адзінства". За яго кандыдатуру прагаласавала 27 радных супраць 14-ці. Прэзідэнцкі месячны заробак устаноўлены - 22 млн. 700 тыс. злотых.

* * *

У нядзелю раніцой у Гарадку закончыўся пяты фэстываль музыкі Маладой Беларусі "Басовішча", арганізаваны Беларускім аб'яднаньнем студэнтаў. Найбольш узнагарод сабраў гурт "Брага" з Гарадка.

Фэстываль пачаўся ў пятніцу а 20-й гадзіне. Выступілі амаль дзесяць калектываў з Беласточчыны й Беларусі. Па-за конкурсам выступіў гурт "Тарнада" з Менску. Другі дзень быў днём ляўрэатаў і зорак. Узнагароду "БАСу" атрымаў "Белы Сон" з Беластоку. Публіка сваю ўзнагароду, фундаваную войтам Гарадоцкай гміны, аддала гурту "Брага" з Гарадка. Яны таксама атрымалі ўзнагароду радыё "Беласток", 300 даляраў ЗША, якія фундавалі беларусы ЗША, атрымаў гурт "Палац" з Менску.

Пасьля выступленьня ляўрэатаў, упершыню ў гісторыі "Басовішча" выступіў польскі гурт "Каса хорых". Паказалі канцэрт і беларускія гурты "Крама", "Мроя", "Новае неба". Канцэрт працягваўся да чатырох гадзін ночы.

Сьвята скончылася ў нядзелю народным гуляньнем з удзелам фальклёрных калектываў.

Увесь час стаяла страшэнная сьпякота.

**По матэрыялах польскага друку.**
**Падрыхтаваў да друку М.КАРНЕВІЧ.**

## ПРЫЗНАЧАНЫ ПАСОЛ ЛЕТУВЫ НА БЕЛАРУСІ

Прэзідэнт Альгірдас Бразаўскас падпісаў дэкрэт аб прызначэньні Віктараса Баўбліса надзвычайным і паўнамоцным паслом Летувы ў Рэспубліцы Беларусь. Дагэтуль В.Баўбліс працаваў прадстаўніком па друку ўрада Летувы. Па яго словах, каманда пасольства Летувы на Беларусі амаль сфарміраваная, калектыў працуе кваліфікавана.

В.Баўбліс нарадзіўся ў 1943 годзе ў Варэнскім раёне. Вучыўся ў Клайпэдзкім палітэхнікуме, на юрыдычным факультэце Віленскага ўнівэрсітэта, у Ленінградзкай вышэйшай партыйнай школе, служыў у Савецкай арміі. Працаваў у клайпэдзкім гаркаме кампартыі Летувы, у марскім флёце, у Віленскім гаркаме КПЛ, узначальваў аргаддзел КПЛ.

Перад назначэньнем прадстаўніком па друку прэм'ера А.Шляжавічуса некалькі гадоў узначальваў уласную кансультацыйна-пасрэдніцкую гандлёвую фірму.

Сястра Алдона, якая жыве ў Клайпэдзе, і брат Вітаўтас, каўнасец, працуюць у паліцыі. Сястра Мілда жыве ў Вільні, яна пэнсіянерка. Дачка Вілія - навучэнка. Дачка Эгле выйшла замуж, жыве ў Ізраіле, вывучае сацыяльныя навукі. Жонка Ірэна - выкладчык, яна пакуль ня вырашыла пытаньне аб пераезьдзе ў Менск.

**БНС**

## ШТО КОЛЬКІ КАШТУЕ Ў ТРОХ БАЛТЫЦКІХ КРАІНАХ?

Па-ранейшаму самая "дарагая" з краінаў Балтыі - Латвія. Тут у 13-ці з 16-ці групаў тавараў зафіксаваныя самыя высокія кошты (у далярах ЗША), а ў Летуве - самыя нізкія ў 12 групах тавараў.

Кілаграм ялавічыны ў Латвіі каштуе 1,93 даляра ЗША, у Эстоніі - 1,67, а ў Летуве - 1,81. Кілаграм сьвініны - адпаведна 2,64, 2,13 і 2,33 даляра ЗША.

Куры найбольш танныя ў Летуве - 1,76 даляра за кілаграм, самыя дарагія ў Латвіі - 2,5 даляра, у Эстоніі - 1,97. Вараная каўбаса таксама самая танная ў Летуве - 2,14 даляра, у Латвіі - 3,31, у Эстоніі - 2,35 даляра.

У Латвіі самыя высокія кошты на малочныя прадукты: масла - 2,8 даляра (у Летуве - 1,87, у Эстоніі - 2,18), малако 2,5-працэнтнай тлустасьці - 0,37 даляра (у Летуве - 0,18, у Эстоніі - 0,25), сьмятана - 1,36 даляра (у Летуве - 0,99, у Эстоніі - 1,05), твораг - 1,15 даляра (у Летуве - 0,81, у Эстоніі - 1,01).

Дзесятак яек дзешавей каштуе ў Летуве - 0,38 даляра, у Эстоніі й Латвіі - 0,6 даляра.

Жытні хлеб у Латвіі амаль удвая даражэй, чым у Летуве: адпаведна 0,51 і 0,26 даляра. У Эстоніі - 0,35 даляра. Цэны на батоны: у Латвіі - 0,69, у Летуве - 0,38, у Эстоніі - 0,65 амэрыканскага даляра.

Яблыкі самыя дарагія ў Эстоніі - 0,67 даляра, у Латвіі й Летуве - 0,27 і 0,45 адпаведна.

Кошты на бульбу ў Латвіі й Эстоніі прыкладна аднолькавыя - 0,18 і 0,19 даляра. У Летуве яны амаль удвая дзешавейшыя - 0,09.

Кошт на бэнзін АІ-92 у краінах Балтыі адрозьніваецца мала: у Летуве - 0,26 даляра, у Латвіі - 0,33 даляра, у Эстоніі - 0,25. А кошт месячнага праязднога білета на аўтобус у Летуве складае 2,07 даляра, у Эстоніі - 2,33, у Латвіі - 4,87.

Сярэдняя заработная плата ў Летуве ў траўні склала 86,75 даляра ЗША, у Эстоніі - 105,18, у Латвіі - 137,56.

**ЭЛЬТА.**

**РАСЕЯ**

Паводле дадзеных Нацбанка Расеі, у гэтай краіне самым багатым зьяўляецца канцэрн "Гэрмэс", капітал якога складае 80 трыльёнаў расейскіх рублёў і 300 мільярдаў даляраў ЗША.

* * *

Па адзнаках заходніх спэцыялістаў і экспэртаў, пэрыяд настальгічнага турызму "ост-пройшэн" камэрцыйных турыстаў з Нямеччыны й краін Скандынавіі на пяшчаныя дзюны Калінінградзкай вобласьці Расеі прайшоў. Таму ўстановы, што спэцыялізаваліся ў гэтым накірунку бізнэсу, тэрмінова шукаюць новых спонсараў на тэрыторыях краін СНД.

На думку супрацоўнікаў міжнароднага турыстычнага агэнцтва ў Каралеўцы "Бурштын", тым, хто жадае папаўняць бюджэт горада за кошт турызму, неабходна выдаткаваць на аднову пляжаў, дамоў адпачынку, гатэляў, турыстычных трасаў значныя сродкі. Іх мясцовая казна ня мае. Заможныя замежныя інвэстары таксама не сьпяшаюць укладаць сродкі на стратны бізнэс. Таму тут і спрабуюць знайсьці спонсараў у асяроддзі камэрсантаў з краін СНД.

**УКРАІНА**

Дзесяты запар захад ад украінскага грамадзка-палітычнага аб'яднаньня "Народны Рух Украіны" атрымалі львоўскія гарадзкія ўлады. Народны Рух Украіны патрабуе ад мясцовых уладаў тэрміновага выкананьня прынятай яшчэ ў 1990 годзе пастановы аб узьвядзеньні ў горадзе Львове помніка лідару й арганізатару ўкраінскага паўстанцкага руху Сьцяпану Бандэры.

**(з.д.)**

## ВІЛЕНСКІЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

Па словах прэм'ера А.Шляжавічуса, ёсьць думкі стварыць на тэрыторыі Закняйскага аэрадрома свабодную эканамічную зону для прыцягненьня інвэстыцый, а на авіярамонтным прадпрыемстве - цэнтр тэхнічнага абслугоўваньня амэрыканскай кампаніі "Боінг". Ужо падпісаны пратакол аб намерах з адной з буйнейшых кампаній ЗША "North West Airlines".

Для ажыцьцяўленьня вышэйпамянёнага неабходна каля 20 мільёнаў даляраў, прычым каля трох мільёнаў павінна даць Летува. Па словах прэм'ера, такіх грошай у Летувы няма.

* * *

13 курдаў спрабавалі нелегальна перайсьці летувіска-польскую мяжу. Яны прайшлі сыгнальную дротавую агароджу, але былі затрыманыя памежнікамі заставы Пазапсяй.

Усе затрыманыя зараз знаходзяцца ў Ладзіяі. Супраць іх узбуджана крымінальная справа, ідзе сьледзтва. За апошні месяц гэта ўжо чацьвёртая група, якая спрабавала трапіць нелегальна на тэрыторыю Польшчы.

* * *

Урад краіны зацьвердзіў дагавор паміж урадамі Летувы й Венэсуэлы аб адмене візаў для грамадзян абедзьвюх дзяржаваў, якія маюць дыпляматычныя й службовыя пашпарты. Ён быў падпісаны 14 красавіка ў Каракасе міністрам замежных спраў Летувы П.Гілісам падчас яго візыта ў Лацінскую Амэрыку.

* * *

Мэр Вільні атрымаў ліст з Японіі ад мэра горада Майзуру з просьбай даслаць па адной цагліне з касьцёла сьвятой Ганны й замка Гэдымінаса. Справа ў тым, што ў горадзе Майзуру створаны музэй чырвонай цэглы.

Спэцыялісты з аддзелу аховы помнікаў Віленскай гарадзкой управы ўжо дамовіліся з касьцёлам сьв.Ганны наконт гэтага. На жаль, уся цэгла ў замку Гэдымінаса выкарыстана, але, каб задаволіць просьбу японцаў, вырашылі, што адну цагліну можна асьцярожна выцягнуць са сьцяны.

* * *

Самы высокі ўзровень інфляцыі сярод дзяржаў Балтыі назіраўся ў траўні ў Летуве, ён склаў 6,2 працэнта. Для параўнаньня, ў Латвіі - 0,2, у Эстоніі - 1,1 працэнта. У гэтым месяцы больш за ўсё падаражэлі паслугі транспарту - на 8,2 працэнта, сфэры абслугоўваньня, адпачынку й культуры - на 2,9 працэнта. Зарплата павялічылася ў Летуве на 6,3 працэнта й склала 347 літаў (86,75 даляра ЗША).

* * *

Тракайскай мэрыі не хапае грошай на прыбіраньне горада. У мэтах эканоміі сьмецьце вырашана вывозіць на фурманцы. Кучар штомесяц будзе атрымліваць 160 літаў, столькі ж будзе каштаваць аднадзённая арэнда сьмецьцевоза.

* * *

З 1 ліпеня кожнага, хто ўваходзіць у алітускую ратушу-будынак, дзе месьцяцца гарадзкія ўлады, сустракае дзяжурны. Ён пытае, у які габінэт накіроўваецца наведвальнік. Гэта мера ўведзена таму, што работнікі самакіраваньня неаднойчы сустракалі ў прыбіральнях ратушы людзей сумніцельнай рэпутацыі, якія там галіліся, мыліся.

* * *

Прадстаўнікі 15 фірмаў Летувы прынялі рашэньне ня браць удзелу ў міжнароднай выставе "Балтык Інфа 94", якую арганізоўвае нямецкая фірма "Файртрайдэ" 18-21 кастрычніка.

Адказ матываваны безпадстаўна высокімі цэнамі, арганізацыйнымі няўвязкамі, парушэньнямі дзелавой этыкі. Летувіскія прадпрымальнікі вырашылі правесьці альтэрнатыўную "Балтык Інфа 94".

На думку гендырэктара фірмы "Інта" В.Віткаўскаса, выставу можна арганізаваць без дапамогі немцаў, і яна будзе каштаваць нават таньней. Міністр сувязі й інфарматыкі Г.Жынцяліс і яго сакратар падтрымалі прапанову аб правядзеньні альтэрнатыўнай выставы.

* * *

У чэрвені на ўтрыманьне лячэбных установаў Вільні й аплату іх даўгоў патрабавалася 18 мільёнаў літаў: 10 мільёнаў - для нармальнага існаваньня, астатнія - на аплату даўгоў за некалькі месяцаў. Апошнія складалі на 15 красавіка 3,9 мільёна літаў, а на сярэдзіну чэрвеня - ужо 8,5. За ацяпленьне шпіталі запазычылі 1,2 мільёна, за мэдыкаменты - столькі ж, за транспарт, паслугі пральняў і тэлефонную сувязь - 1,6 мільёна.

**LR**

Прыватны камэрсант з Вільні Рымвідас Ясінавічус удала разьвіў у Летуве магутную сетку дыстрыб'ютарскіх фірмаў сумеснай амэрыкана-летувіскай фірмы "Бэкэт". Фірма распаўсюджвае на Летуве моцныя напоі, у іх ліку - знакамітыя "Yohnnie Waker", "Sordon'b" ды іншыя. Апошні набытак фірмы - шатляндзкія віскі. Гэты напой фірма "Бэкэт" праз сваіх дыстрыб'ютараў плянуе распаўсюджваць на Беларусі, Украіне, у Малдове й Казахстане.

**(з.д.)**



**17 ліпеня ветэраны Горадні ўрачыста адзначылі дзень вызваленьня горада ад акупацыі нямецка-фашысцкіх войскаў.**

**На здымку: ускладаньне вянкоў і кветак на брацкай магіле ў Старым парку.**

**Фатаграфаваў В.ГАРОШКА.**

**Васіль РАГУЛЯ**

# УСПАМІНЫ

**(Працяг. Пачатак у NN 21-23)**

Пакуль ішло галасаваньне, натоўп эндэкаў запрудзіў усю Вейскую вуліцу, дзе быў будынак Сойму і сумежны з ёю Пляц Трох Крыжоў, блякуючы ў такі спосаб Сойм. Усюды былі чутны крыкі: "Няхай жыве Замойскі! Далоў Нарутовіча!" Народ не разыходзіўся. Паслы й сэнатары прабавалі выйсьці, аднак Пасол ППС Пятроўскі і адзін жыдоўскі сэнатар з рыжаю барадою вярнуліся ў Сойм з тварамі, залітымі крывёю. Нам усім, па аднаму або па двух давялося выходзіць бочным выхадам, каб навакольнымі вуліцамі трапіць на Ўяздоўскую Алею. Я выйшаў разам з Мятлою. Уяздоўская Алея, Пляц Трох Крыжоў і Новы Сьвет кішэлі. Людзі толькі і гаварылі аб выбарах прэзыдэнта. Мы затрымаліся каля адной вітрыны, дзе стаялі дзьве на выгляд інтэлігентныя дамы. Адна гаворыць другой: "Pani slyszala, juz obrano na prezydenta zyda". (Нарутовіч - чыстакроўны паляк.) - To nie powinno byc, zeby w Polsce byl prezidentem zyd." Пасьля колькі дзён навонкі ўсё супакоілася, аднак унутры эндэкаў бушавала бура нянавісьці да новавыбранага прэзыдэнта.

Хутка пасьля выбараў прэзыдэнт зьведваў галерэю "Sztuk Pieknych". Тут падышоў да яго фанатык эндэк (прозьвішча якога забыўся) і рэвальвэрным стрэлам зблізка сьмяротна зраніў прэзыдэнта. Забойцу засудзілі на сьмерць і павесілі. Характэрна паставіліся да гэтага эндэкі. Дамавіну з трупам забойцы саматугам зацягнулі на могільнік, а магілу ўпрыгожылі краскамі.

Давялося выбіраць новага прэзыдэнта. Супольнымі сіламі правых і цэнтру, бальшынёю быў выбраны кандыдат Пяста - Вайцехоўскі. Беларускі Клюб галасаваў супроць кандыдатуры Вайцехоўскага.

## ПОЛЬСКАЯ ПАЛІТЫКА Ў ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ ДА ПЕРАВАРОТУ 1926 Г.

Польскую палітыку адносна беларусаў можна схарактэрызаваць словамі: дэнацыяналізацыя і палянізацыя. Надзею на поўную і хуткую ўдачу палянізацыі адчынена выказаў у Ўставадаўчым Сойме прэм'ер Скульскі. Ён сказаў, што за 50 год ніякіх беларусаў у Польшчы ня будзе, што ўсіх беларусаў у Польшчы можна будзе пасадзіць на адной канапцы. Усе мерапрыемствы наступных польскіх урадаў на нашай прасторы кіраваліся на дасягненьне гэтай мэты, бяз розьніцы, якая там партыя ні стаяла на чале ўраду. Апрача палітычнага пасьля стаў стасавацца і ціск эканамічны, які, у некаторых выпадках, прымаў вострыя формы. Быў выпрацаваны і зацьверджаны Ўставадаўчым Соймам закон аб вайсковым і цывільным асадніцтве (каляністах) на "Kresach Wschodnich".

Закон прадугледжваў канфіскацыю ўсіх незагаспадараваных земляў, падцягваючы пад гэтую катэгорыю зямлі, уласьнікі якіх не вярнуліся з уцякацтва з Расеі. Найбольшую страту спрычыніў ён праваслаўным абшарнікам, як графу Хрэбтовічу-Буценёў у Шчорсах. У яго забралі ўсю ягоную аграмадную лятыфундрыю з дрэнаванымі сенажацямі і палямі, з добра ўгноенай і прыкладна апрацаванай жызнай глебай. Яму пакінулі адзін хвальварк Мураванку і лясы. З пункту гледжаньня права, канфіскацыя адбывалася часамі ў недапушчальны спосаб. У Навагрудчыне, у Карэліцкай воласьці, нейкага Лазарэвіча, што вярнуўся з уцякацтва, выкінулі вон з ягонага собскага дому, а ўсе забудовы на ягоным хутары з інвэнтаром былі зканфіскаваны на карысьць нейкага афіцэра-легіяніста. Падобныя выпадкі былі і ў Віленшчыне. Чым жа ня гісторыя Траекурава з повесьці Пушкіна "Дубровскій"? Ніякія скаргі Лазарэвіча ня былі ўзяты пад увагу. Шматлікія беларусы, хутаране, з гаспадаркаю вялікай велічыні, былі ў такі спосаб аграблены, як быццам і на праўнай аснове. Закон аб асадніцтве прадугледжваў перадачу 30 працэнтаў адчужанай зямлі ў рукі мясцовага насельніцтва. Аднак трэба было ў дзень са сьвечкаю шукаць шчасьліўца праваслаўнага беларуса, што атрымаў бы кавалачак зямлі, няхай і горшай якасьці.

Адначасова праводзілася ўзмацненьне польскага элемэнту экспартам яго з Цэнтральнай Польшчы на нашую тэрыторыю ў характары вайсковых і цывільных асаднікаў, дарогаю выплаты беззваротных пазыкаў з дзяржаўнай касы на закуп зямлі, адчужанай у абшарнікаў, у бальшыні выпадкаў не палякаў. Беларусы маглі купляць зямлю ў абшарнікаў толькі за наяўны разьлік, ім зачынены былі дарогі да дзяржаўнай падтрымкі. Абшарнікі ахвоча прадавалі сялянам зямлю на тэрміновую сплату або падваксалі. Сяляне акуратна пагашвалі ваксалі залатымі рублямі і амэрыканскімі далярамі, да 225 дал. за гэктар. На куплю ішло ўсё: апошні япрук, малако, яйцо. Некаторыя абшарнікі, як Кашыц у Ярэміцкай воласьці, сьведама адмовіліся прадаваць зямлю асаднікам, прадаючы яе сялянам.

Спачатку можна было купляць зямлю бяз ніякага дазволу адміністрацыйнай ўлады. У 30-х гадох было ўведзена вымаганьне дазволу ваяводы на права куплі. Ваяводы выдавалі дазвол на аснове характарыстыкі просьбіта, выдадзенай мясцовым паліцыйным пастарункам. Такім чынам, у сапраўднасьці дазвол выдаваў начальнік пастарунку. Нават на куплю пляцу на некалькі сотняў квадратовых мэтраў вымагалі дазволу. Пры новым абмеркаваньні зямельнага пытаньня ў Сойме, Сойм бальшасьцю ўсіх польскіх галасоў супроць Нацыянальных Меншасьцяў адхіліў папраўку ўкраінцаў і беларусаў аб тым, каб землі праваслаўных цэркваў і манастыроў перадаваліся толькі мясцовым праваслаўным.

Канстытуцыя гарантавала свабоду веравызнаньняў. У жыцьці ж на праваслаўных сьвятароў глядзелі з падозраньнем, а часам і з нянавісьцю. Праваслаўны сьвятар быў пад сталым наглядам каманданта паліцыйнага пастарунку. Рэдкія выпадкі адчыненага выступленьня сьвятароў пры выбарах у Сойм выклікалі перасьледаваньні. Так было са сьвятаром у м. Уселюб, што зарызыкаваў адчынена заклікаць парахвіянаў галасаваць за лісту N 16.

Было пастаўлена пытаньне аб рэвіндыкацыі былых вуніяцкіх парахвіяў. Гэта мела на мэце адабраць ад праваслаўных амаль усе цэрквы, бо калісьці амаль ня было праваслаўных парахвіяў. Гэтую акцыю падняў віленскі каталіцкі япіскап Ялбжыкоўскі.

Супроць гэтага адчынена выступіў львоўскі вуніяцкі мітрапаліт граф Шэптыцкі. Адбылося некалькі судовых працэсаў у Вышэйшым Судзе ў Варшаве, якія выйгралі праваслаўныя. Гэтая акцыя дужа ўсхвалявала беларускае і ўкраінскае парляманцкія прадстаўніцтвы ў Сойме, як і насельніцтва на месцах. Відавочна баючыся паважных беспарадкаў, улады прынялі адпаведныя захады, і акцыя была перарвана.

Ялбжыкоўскі і сьвецкія ўлады не пакідалі ў супакоі і беларускіх ксяндзоў. За "антыдзяржаўную дзейнасьць" суд прысудзіў кс. Гадлеўскага на год турмы, які ён адсядзеў у Макатоўскай вязьніцы ў Варшаве. У м. Друі быў манастыр ксяндзоў Марыянаў, беларусаў. Там яны мелі сваю друкарню, у якой друкавалі рэлігійныя кніжкі ў беларускай мове. Ялбжыкоўскі разагнаў і іх. Ксяндзоў-беларусаў ён пазбавіў парахвіяў і выслаў іх у якасьці вікарыяў да ксяндзоў, выпрабаваных эндэкаў, пад іх пільны нагляд. Кс. Абрантовіча Ватыкан, бязумоўна на дамаганьне польскага ўраду, выслаў у Харбін, высьвячаючы яго ў сан архімандрыта. У разуменьні палякаў словы "паляк" і "каталік" былі сынонімамі. Для іх было дзіка, каб каталіцкі сьвятар ня лічыў сябе палякам.

Беспацешны абраз прадстаўляла і народная асьвета. Канстытуцыя гарантавала кожнай нацыянальнасьці права навучаньня ў роднай мове. У жыцьцё гэта не было праведзена. Настаўніцкая сэмінарыя ў Барунах была зачынена. Усе пачатковыя школы ў вёсках і мястэчках былі зачынены. Засталіся 4 гімназіі - Віленская, Навагрудзкая, Радашкавіцкая і Клецкая, з якіх дзьве апошнія былі хутка зачынены. Пакідаючы гімназіі без дзяржаўнай грашовай дапамогі, улады лічылі, што, дзеля адсутнасьці сродкаў і неабходнага прыгатаванага кантынгенту паступаючых, гімназіі зачыняцца самі. Але кандыдаты падрыхтоўваліся патаемна ўдома беспрацоўнымі беларускімі настаўнікамі. Зьбіраліся мізэрныя сродкі ў выглядзе аплаты за навуку. Настаўніцкі пэрсанал жыў недаядаючы, аднак працы ня кідаў. Ахвярнасьць ягоная была вельмі высокая. Кожны павінен зразумець, што вучыць пры недахопе навуковых дапаможнікаў, ды яшчэ з пустым жыватом - аграмадная ахвярнасьць з боку настаўніка. Вечная памяць памёршым і загубленым у савецкіх засьценках, слава і гонар тым, што жывуць.

Адміністрацыя назаляла грашовымі штрафамі. Штрафавалі за някованага каня, за сабаку, што сарваўся з ланцуга, за адсутнасьць званка пры дузе ці дошчачкі пры возе з прозьвішчам гаспадара. Адным словам, штрафавалі, каб толькі назаляць насельніцтву. Войтам павінен быў быць паляк. Калі ж на месцы не было адпаведнага паляка, як у нас у Любчы, дык назначалі мясцовага беларуса, але такога, які быў, як гаворыцца, "ні ў горадзе Багдан, ні ў сяле Сяліван". Валасную раду камплектавалі з палякаў, у бальшыні асаднікамі і іх жонкамі. Толькі салтысы былі беларусы. Праваслаўнага беларуса баяліся браць нават на стоража ў школу, а бралі паляка адкульнебудзь з боку. Усё йшло па лініі ўзмацненьня польскага элемэнту, толькі ня якасна, а колькасна. Якасна гэта быў элемэнт самага подлага гатунку. Адначасова ўрадавыя агэнты стараліся палянізаваць беларусаў шляхам гутаркі з імі ў дзяржаўных установах толькі па-польску. Усё было накіравана ў вызначаным Скульскім напрамку.

## БЕЛАРУСКІ ПАСОЛЬСКІ КЛЮБ У СОЙМЕ

Намалёванае вышэй палажэньне прарочыла ўпорыстую, цяжкую і, па-мойму, безнадзейную барацьбу. Гэтаму пэсымізму быў супрацьстаўлены не аптымізм, а, я сказаў бы, некаторая надзея на тое, што палякі будуць дальнабачнымі палітыкамі і ў інтарэсах сваёй няўзмоцненай дзяржаўнасьці пойдуць на некаторыя ўступкі ў карысьць хоць бы славянскіх меншасьцяў: ня можна ж быць у канфлікце з усімі навакол. Пад знакам гэтай надзеі й пайшла праца Пасольскага Клюбу.

Трэба было выбраць старшыню Клюбу і накрэсьліць плян соймавай працы Клюбу. Нам трэба было выпрацаваць праграмны мінімум і тактыку ягонага ажыцьцяўленьня. Старшынёю адзінадушна быў выбраны пасол Тарашкевіч.

Што тычылася праграмнага мінімуму, дык было пастаноўлена высунуць патрабаваньне беларускага школьніцтва: арганізацыі беларускіх пачатковых школаў, настаўніцкіх сэмінарыяў, 4-ох гімназіяў у вышэй успомненых мною месцах і беларускага факультэту пры Віленскім Унівэрсітэце. Вось менш-больш сьціплыя патрабаваньні ў галіне асьветы. Мы дамагаліся адчужаньня царкоўных, касьцельных, манастырскіх, дзяржаўных і прыватнаўласьніцкіх земляў, з надзелам гэтаю зямлёю без выкупу бяднейшых сялян. Дамагаліся таксама асыгнаваньня сродкаў на асноўны капітал Беларускага Банку для выдаваньня пазыкаў патрабуючым беларусам, назначэньня беларусаў адміністратарамі, улучана да ваяводаў у беларускіх ваяводзтвах - Віленскім, Навагрудзкім, Беластоцкім і Палескім, прыдзелу бязплатнага ляснога матар'ялу і безпаваротных грашовых пазыкаў на адбудову зруйнаваных вайною гаспадаркаў. Пытаньне аб аўтаноміі Заходняй Беларусі было высунута толькі пасьля некаторага часу.

Вось з такімі дамаганьнямі выступіў з соймавай трыбуны старшыня Клюбу Б.Тарашкевіч. Дамагчыся зьдзяйсьненьня гэтых патрабаваньняў, хаця б толькі часткова, Клюб вырашыў шляхам удзелу ў працах Сойму і, значыць, шляхам прызнаньня польскай дзяржаўнасьці на нашай тэрыторыі. Адсюль і выплываў удзел у выбарах прэзідэнта і галасаваньне даверу ўраду ген.Сікорскага. З мэтаю захаваньня ідэалягічнага адзінства Клюбу больш радыкальна настроеная частка паслоў згадзілася на такую тактыку (супроць праграмных патрабаваньняў ніхто ня выступаў). Трэба было даказаць нашаму спакойнаму насельніцтву, што нават мінімальных і справядлівых нашых дамаганьняў палякі не задаволяць. Трэба было, каб нашыя палітычныя ворагі не маглі пераканаць нашых выбаршчыкаў у тым, што яны нічога не атрымаюць таму, што выбралі дзікіх, няпрымірымых і незгаворлівых паслоў. Вось чаму Клюб вырашыў пайсьці на безнадзейную і, сказаў бы, угадовую палітыку. Інакш яе назваць няможна. Спакойная дзелавая прамова Тарашкевіча была сустрэнута эндэкамі няпрыхільна. Чуліся паасобныя выкрыкі: "Niech pan jedzie do Minska! Czego pan przyechal tu". Цэнтр і левыя паставіліся ўстрымана спакойна. Заля была напалову пустая. Вось чаму Тарашкевіч распачаў сваю прамову словамі: "Wysoka, ale pusta izbo!"

Пачалася праца Сойму. У паасобных галінах заканадаўства былі створаны камісіі. У кожную з іх увайшоў адзін беларус. Я запісаўся ў зямельную камісію. Бяручы ўдзел у ейных працах, я хутка пераканаўся, што нам няма чаго чакаць ад польскага Сойму. Камісія моцна стаяла на пункце падтрымкі польскага элемэнту на "Крэсах" - вайсковых асадніках, ды ўзмацненьня гэтага элемэнту цывільнымі асаднікамі шляхам субсыдаваньня іх Дзяржаўным Банкам. Усе, нават дробныя, папраўкі з беларускага і ўкраінскага боку камісія ўпарта адхіляла. На мае доказы, што ў нас пануе зямельны голад, што ў нас няма свабоднай зямлі, што ў нас цана за зямлю дайшла да неймавернай лічбы - 225 даляраў за гэктар, я чуў адказ: "Калега, дазвольце вам ня верыць. Такой цаны нідзе няма ў Польшчы. На "Крэсах" хопіць зямлі і для вас, і для нас." Ня лепш было і ў другіх камісіях. Голас беларуса і ўкраінца быў голасам гукаючага ў пустыні.

Падобна выглядала справа і ў адносінах польскага ўраду да беларускіх патрабаваньняў. Да перавароту 1926 г. зьмяняліся адзін за другім урады ген. Сікорскага, Грабскага і Вітаса. Сікорскі гутарыў з Тарашкевічам лагодна, спакойна выслухоўваў усе нашыя вышэйуспомненыя дамаганьні і карміў Тарашкевіча абяцаньнямі, што ўсё з часам будзе зроблена. Час ішоў, і ня было нават знаку, што ўрад меў хоць найменшую ахвоту заняцца іншым пытаньнем. Урад Сікорскага, нічога нам ня даўшы, упаў. Наступныя ўрады Грабскага і Вітаса таксама нічога нам не прынесьлі. Праўда, мы і не чакалі нічога добрага. Грабскі і Вітас у сваіх экспазэ туманна выказаліся, што з братнімі славянскімі меншасьцямі паладзяць, а як? Аб гэтым яны не сказалі нічога. Беларускі клюб і не чакаў ад іх нічога пазытыўнага й таму пры ўдзяленьні вотуму даверу галасаваў супроць.

**(Працяг будзе).**





# АПОШНЯЯ СТАРОНКА



**15 ліпеня ў Горадні прайшоў чарговы 4-ты чэмпіянат Беларусі сярод веласіпэдыстаў-шасэйнікаў. Этап працягам 197 кілямэтраў змаглі пераадолець толькі 9 гоншчыкаў з 45 стартаваўшых.**

**Пераможца гонкі, а ім стаў наш зямляк У.Кот, атрымаў права ўдзельнічаць на чэмпіянаце сьвету, які адбудзецца ў жніўні ў Італіі.**

**НА ЗДЫМКУ: У.КОТ (зьлева) у кампаніі прызёраў.**

**Фатаграфаваў В.ГАРОШКА.**

## САМЫ ПАПУЛЯРНЫ ЛІК - НІЧЫЯ

Нягледзячы на тое, што футбольны форум у ЗША ўжо завяршыўся, цікаўнасьць да гэтага віду спорту па-ранейшаму застаецца вялікай. Справа ў тым, што ў Беларусі стартаваў чацьвёрты нацыянальны чэмпіянат. Вось вынікі першых тураў: "Абутнік" (Ліда) - ФК "Маладзечна" - 0:0, "Лакаматыў" (Віцебск) - "Дынама" (Берасьце) -1:0, "Тарпеда" (Менск) - "Ведрыч"(Рэчыца) - 2:0, "Шахцёр" (Салігорск) - "Фандок" (Бабруйск) - 1:2, "Тарпеда" (Магілёў) - "Дняпро" (Магілёў) - 2:2, "Дынама" (Менск) - "Дынама-93 (Менск) - 1:1, "Нёман" (Горадня) - "Шыньнік" (Бабруйск) - 0:0, "Дняпро" - "Дынама-93" - 0:0, "Шыньнік" - "Тарпеда" Мг - 0:0, ФК "Маладзечна" - "Ведрыч" - 6:0, "Лакаматыў" - "Нёман" - 0:0, "Дынама" Бр - "Шахцёр" - 0:0, "Тарпеда" Мн - "Гомсельмаш" - 1:0, КІМ - "Абутнік" - 1:0, "Дынама" Мн - "Фандок" - сустрэча перанесена.

Відавочна, шта пакуль самы папулярны лік - 0:0. Да таго ж, "Нёман" і "Шыньнік" другі матч запар ня могуць забіць гол, але й сваю браму трымаюць на замку.

Наступны тур пройдзе 24-25 ліпеня. Адна з галоўных сустрэч адбудзецца ў Менску, дзе "Дынама-93" будзе прымаць "Нёман". Гэты матч аматары футбола могуць убачыць у нядзелю па БТ (пачатак у 19.00).

## ТРЭЦІ СТАРТ

Трэці раз валейбольная каманда "Камунальнік" з Горадні будзе ўдзельнічаць у прэстыжных эўрапэйскіх кубкавых турнірах. І калі ў мінулыя гады хлопцы зыходзілі з дыстанцыі ўжо пасьля 1-2 тураў, то сёлета ёсьць надзея затрымацца сярод валейбольнай эліты й надалей.

Жэрабя распарадзілася так, што сапернікам "Камунальніка" стаў малавядомы клюб "Трансфер" з Аўстрыі. Гульні ў турніры ЭКВ адбудуцца ў кастрычніку-лістападзе.

У Кубку эўрапэйскіх чэмпіёнаў віцебскі "Спадарожнік" будзе гуляць з сараеўскай "Боснай". Жаночая каманда "Амкадор" (Менск) - з пераможцам пары "Валоа"(Галяндыя) - БТВ (Швэйцарыя). Валейбалісткі ВВВ - "Унівэрсітэт" з Гомлі сустракаюцца ў турніры Кубка ўладальнікаў кубкаў з турэцкім "Хальбанкам". Менскі СКА - з пераможцам пары "Металак-Олі" (Харватыя) - "Хапаэль" (Ізраіль). А таксама ў Кубку Эўрапэйскай канфэдэрацыі валейболу (ЭКВ) прымуць удзел дзяўчаты менскай "Энкі" (сустрэнуцца з гішпанскай камандай "Лос Кампардэс") і берасьцейскага "Каўроўшчыка" (з "Філатліцікасам" з Грэцыі).

## ЗЬДЗІВІЛІ СЬВЕТ БЕЛАРУСКІЯ БАСКЭТБАЛІСТЫ

На чэмпіянат Эўропы па баскэтболу маладзёжная зборня Беларусі ехала, на думку спэцыялістаў, статыстам, а вярнулася... з залатымі мэдалямі! Такое спрагназаваць было немагчыма, але факт застаецца фактам: сёньня беларуская каманда мацнейшая на кантыненьце.

Турнірны лёс нашых баскэтбалістаў, аднак, складваўся адразу ня вельмі ўдала. Пасьля перамогі з лікам 98:97 над гаспадарамі - зборняй Славеніі, - затым прыйшлося ўступіць Грэцыі - 87:98. Трэці матч зноў абнадзеіў, калі беларусы з лікам 84:47 перайгралі Фінляндыю. Здавалася б, паражэньне ад моцнай ізраільскай зборні (65:81) паставіць крыж на нашай каманьдзе, але ў прынцыповай сустрэчы беларускія "гуліверы" усё ж перамаглі французаў (79:57).

А пасьля таго, як зборня Беларусі ня толькі дагнала гішпанцаў (яны мелі плюс 20 пунктаў), але й вырвала на апошніх секундах у іх перамогу (69:67), зьявіўся выдатны шанц паспрачацца ў фінале за залатыя мэдалі. У выніку, італьянская зборня капітулявала, уступіўшы з лікам 91:96. На трэцім месцы Гішпанія, на наступных месцах - Грэцыя, Ізраіль, Турцыя, Расея, Славенія, Нямеччына, Фінляндыя, Францыя, Славакія.

Як бачым, па-за намі засталіся ўсе баскэтбольныя гранды Эўропы. Да таго ж, узрост нашых хлапцоў быў на 1-2 гады менш за іх сапернікаў. А тым часам, як паведаміў галоўны трэнер Аляксандр Барысаў, Куль і Сьвірыдаў атрымалі ўжо прапановы прадоўжыць вучобу ў Вашынгтонскім унівэрсітэце (зразумела, і гуляць за студэнцкую каманду).

**Г.ВАСІЛЕВІЧ.**

# КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

Невядома, ці то сьпякота, ці то масавыя адпачынкі падзейнічалі, але ў ліпені ўстанавілася адносная стабілізацыя на "крымінальным фроньце". Ужо два тыдні запар злачынны слупок не дасягае й 150, хаця ў чэрвені толькі за адзін тыдзень было зарэгістравана 198 злачынстваў. За мінулы ж тыдзень учынена значна менш - 139. У іх ліку 3 забойствы, 16 цялесных пашкоджаньняў, 2 разбоі, 12 рабаваньняў і 78 крадзяжоў. За гэты ж час 41 злачынства раскрыта.

Сярод 69 здарэньняў асноўная ўвага надаецца трагэдыям на вадзе, бо колькасьць ахвяр нарастае - за сем дзён зарэгістравана 22 здарэньні.

У 12 дарожных аварыях 2 чалавекі загінулі й 23 - параненыя.

* * *

Аўтобус з падмаскоўнай Балашыхі з 20 пасажырамі ў салёне па дарозе ў Польшчу спыніўся недалёка ад Навасёлак, што на шашы Горадня-Індура, каб замяніць зношаныя колы. Пакуль пасажыры драмалі, а вадзіцелі завіхаліся ля "Ікаруса", падруліла іншамарка. І тут адзін з вадзіцеляў адчуў на сваёй сьпіне дотык халоднага мэталу...

"Маскі" дзейнічалі вельмі нахабна й прагавіта. Калі гатовыя да такога сцэнару гандляркі (ехалі ў асноўным жанчыны) запыталі, па колькі "зялёных" трэба даць "з носа", рабаўнік агарошыў: "Выкладвайце ўсё!" У выніку, ніхто са спадарожніц не пазьбег "мытнага збору", бо ў старэйшай групы для кантролю быў узяты нават сьпіс.

Калі вытрасьлі ўсе кашалькі, кайстры й нават абмацалі больш інтымныя месцы захоўваньня грошай, атрымалася амаль 5 тысяч даляраў.

Нягледзячы на гэта, "Ікарус" усё ж працягнуў шлях на Захад, бо застаўся натуральны тавар, ды й не вяртацца ж дахаты пасьля тысячакілямэтровага падарожжа.

Як успомнілі вадзіцелі, за гадзіну да нападу да іх пад'ехала іншамарка з боку Індуры. Папрасілі салярку, каб дацягнуць да Горадні. Узялі паліва, але павярнулі назад... Разьведка?

* * *

Нешта падобнае мела месца і ў Лідзе. Таксама Падмаскоўе, таксама даляры - 5 500, таксама троіца злачынцаў і таксама раніца. Такую заяву аб некалькі дзіўным абрабаваньні зрабіў у Лідзкім ГРАЎСе інжынер Краснагорскага мэханічнага завода. Сумачку з далярамі злачынцы адабралі ў пацярпелага каля фізкультурна-аздараўленчага комплексу. Было 7 гадзін раніцы.

* * *

Зачасьцілі ў апошні час на старонкі "К.Х." кіраўнікі сельскагаспадарчых прадпрыемстваў. То рыбу яны глушаць, то "пад мухай" за рулём з ветрыкам катаюцца.

На гэты раз "вызначыўся" Б.Балбатун з калгаса "Прынёманскі" Івейскага раёна.

Можа, яно й сышло б з рук, але не пашанцавала. Выехалі намесьніцкія "Жыгулі" акурат на сустрэчную паласу, і лоб у лоб з "Опелем". Пацярпелі вадзіцель "Жыгулёў" і пасажырка іншамаркі.

* * *

Два вядры салярκі самым лепшым аргумэнтам у сварцы з жонкай палічыў 32-гадовы вясковец і падпаліў разьлітую на падлозе хаты вадкасьць. Вынік сумны - згарэў дах, хатнія рэчы й прыбудоўка. Зьнік і сам гаспадар, але пакінуў запіску - маўляў, не шукайце, іду пакончыць з жыцьцём.

**У.ДАНІЛОВІЧ.**

## КРЫЖАВАНКА

**Склаў Вадзім Юшчак**

**Па гарызанталі:**

2. Вышэйшая навучальная ўстанова. 7. У народных гаворках: шарсьцяны бязворсавы дыван. 8. Вучэньне аб нормах паводзін. 9. Музычна-драматычны твор, пры пастаноўцы якога дзеючыя асобы сьпяваюць. 10. У народных павер'ях: лясны дух. 11. Твор вуснай народнай творчасьці. 13. Сварка, часам з бойкай (звычайна ў сям'і). 16. Базар. 19. Паўсядзённае жыцьцё з устаноўленымі правіламі, звычаямі. 20. Закончаная частка п'есы. 22. Невялікі магазін. 24. Расправа з палітычнымі й класавымі праціўнікамі з прымяненьнем насільля. 25. Салёная вада для засолу. 26. У народных гаворках: абледзянелая скарынка на паверхні сьнегу. 27. Горад у Гарадзенскай вобласьці. 28. Шырокая дарога. 31. Частка грузавой аўтамашыны. 33. Даўней: гнеў, няміласьць цара. 34. Старажытнае парусное судна. 36. Званьне духоўнай асобы. 37. Лісток з указаньнем назвы тавару, цаны, колькасьці. 40. У забабонах: дух, які быццам бы жыве ў кожным доме. 43. Аб'яднаньне, саюз. 45. Чалавек, які пражывае дзе-небудзь. 46. У хрысьціянскай міфалёгіі: злы дух, нячыстая сіла. 47. Рэдкая тканіна, па якой вышываюць. 48. Дакумэнт на атрыманьне кватэры. 49. Старажытная назва сталіцы Беларусі да 1323 года.

**Па вертыкалі:**

1. Цыкл невялікіх мастацкіх твораў, аб'яднаных агульнай тэмай. 2. Пісьмовая або вусная дамоўленасьць. 3. Казацкі афіцэрскі чын. 4. Аддача пашаны артылерыйскімі залпамі. 5. Самы высокі мужчынскі голас. 6. У народных гаворках: рабрына. 11. Асноўны закон дзяржавы. 12. Кандытарскі выраб. 13. Унутраны вугал будынка. 14. Сукупнасьць пэўных дзеяньняў, у якіх адлюстраваны бытавыя ці культавыя звычаі народа. 15. Тое, што сапраўды існуе. 17. Мастацка-публіцыстычны твор. 18. Славуты матэматык. 19. Акамянелая празрыстая смала жоўтага колеру. 21. Конусападобны насып пустой пароды каля шахты. 22. Верхняя частка дрэва ў сукупнасьці ўсіх яе галін. 23. Маладая трава, якая вырасла на месцы скошанай. 29. Вобласьць існаваньня ці пашырэньня якой-небудзь з'явы. 30. Складка на адзеньні. 35. Марка фотаапарата. 36. Жаночая вопратка, кароткае прасторнае паліто. 38. Майстар, які займаецца вырабам раменнай вупражы. 39. Лятучая мыш. 41. Трава высокая кармавой якасьці. 42. Прыемны пах. 43. Упрыгожаньне з сплеценых кветак або галінак. 44. Назва перадапошняй літары ў лацінскім алфавіце.



**Адказы на крыжаванку, зьмешчаную ў N 23.**

**Па гарызанталі:**

1. Спаса. 5. Шклов. 7. Дасье. 8. Розга. 9. Атлас. 10. Цётка. 11. Палас. 14. Лазар. 17. "Катэхізіс". 19. Рэнамэ. 20. Нізіна. 21. "Пагоня". 24. Ендава. 27. Семяновіч. 30. Радня. 32. Бабіч. 34. Рэнта. 35. Тарту. 36. Лізол. 37. Кліка. 38. Літва. 39. Тураў.

**Па вертыкалі:**

1. Склеп. 2. Адрас. 3. Пэнснэ. 4. Грэцкі. 5. Шагал. 6. Вечар. 12. Аташэ. 13. Алеша. 15. Абраз. 16. Антон. 17. Каменячос. 18. Станкевіч. 22. Арала. 23. Ордэн. 25. Догма. 26. Веркі. 28. Ягайла. 29. Оптыка. 30. Ромул. 31. Ярыла. 32. Булаг. 33. Чохаў.

"ПАГОНЯ"
РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ
Заснавальнік:
культурна-асьветніцкі фонд
"БАЦЬКАЎШЧЫНА".
Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул.Дамініканская, 1.
Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.
Газэта выдаецца па пятніцах 4 разы на месяц.
Індэкс 63124. Ліцэньзія № 465.
Фотанабор, афсэтны друк.
Гарадзенская вабласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г.Горадня, вул.Паліграфістаў,4.
Заказ 2917.
Тыраж 3713 асобнікаў.